АРТ-ТЭРАПІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ




# БЕЛАРУСКАЯ МАЛЯВАНКА
## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ
### З ПРЫГОЖЫМІ МАЛЮНКАМІ ДЫ ЦУДОЎНЫМІ ВЕРШАМІ

**#МРБ** — ТВОРЧЫ ХЭШТЭГ КНІГІ ДЛЯ ВАШЫХ ФОТА І ЎРАЖАННЯЎ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЕ ВЫДАННЕ
**«МАЯ РАДЗІМА БЕЛАРУСЬ»**
ПРЫГОЖЫЯ МАЛЮНКІ ДЫ ЦУДОЎНЫЯ ВЕРШЫ АД БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ І ПАЭТАЎ З ЦІКАВЫМІ ЗАДАННЯМІ ДЫ ПАЗНАВАЛЬНАЙ ІНФАРМАЦЫЯЙ ПРА БЕЛАРУСЬ.



**АЎТАР ІДЭІ І КІРАЎНІК ПРАЕКТУ**: ПАВЕЛ БЕЛАВУС.

**ДЫЗАЙН І ВЁРСТКА**: АЛЯКСАНДР КРУПІНА.

**РЭДАКТАР І КАРЭКТАР**: ДАША БЯЛЬКЕВІЧ.

**МАЛЮНКІ**: АЛЕНА ШАЛІМА, МАКС ПЯКАРСКІ, ЛІЗАВЕТА ЧЫРВОНЦАВА, НАТАЛЛЯ ГАМАЮНАВА, ВОЛЬГА PALUNISA, НІНА САКАЛОВА-КУБАЙ, ЮРЫЙ МАЛЫШЭЎСКІ.

**ВЕРШЫ**: ЯНКА КУПАЛА, ГЕОРГІЙ ЛІХТАРОВІЧ, ФЁДАР БЯНЬКО, АЛЕСЬ ПІСЬМЯНКОЎ, МАКСІМ БАГДАНОВІЧ, МАКСІМ ТАНК, РЫГОР БАРАДУЛІН, АЛЕСЬ ПЛОТКА, ДАША БЯЛЬКЕВІЧ, АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ, ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ, ЯКУБ КОЛАС, ПАЎЛЮК ТРУС, КАЦЯРЫНА ВАДАНОСАВА, МІКОЛА КАНДРАТАЎ, КАЦЯРЫНА МАССЭ, ВІКТАР ШНІП, АДАМ МІЦКЕВІЧ, СЯРГЕЙ АМЯЛЬЧУК, МІРА ЛУКША, ПЯТРУСЬ БРОЎКА, ЛАРЫСА ГЕНІЮШ, ПІМЕН ПАНЧАНКА, АНТОН РУДАК, АРТУР ВОЛЬСКІ, УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ.

МАЯ РАДЗІМА БЕЛАРУСЬ — МАЛЯВАНКА ДЛЯ ТВОРЧАСЦІ, НАТХНЕННЯ І АДПАЧЫНКУ, ВЫНІК КАЛЕКТЫЎНАЙ ПРАЦЫ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ, ДЫЗАЙНЕРАЎ, ПАЭТАЎ І ВЫДАЎЦОЎ.
МРБ — ГЭТА БЕЛАРУСЬ З ЯЕ ТРАДЫЦЫЯМІ, СІМВАЛАМІ, СВЯТАМІ, МОВАЙ, ПРЫРОДАЙ, СПАДЧЫНАЙ, АДМЕТНАСЦЯМІ ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ.
МРБ — ГЭТА ДУША НАШАЙ КРАІНЫ, ЯКУЮ МЫ АДМЫСЛОВА ПАКІНУЛІ ЧОРНА-БЕЛАЙ, КАБ КОЖНЫ ЎЛАДАЛЬНІК ГЭТАЙ КНІГІ ЗРАБІЎ ЯЕ КАЛЯРОВАЙ, ЯКОЙ БАЧЫЦЬ І АДЧУВАЕ САМ.

**ЗУБР** — сімвал Беларусі. Гэта дужы і моцны звер, яго вочы маўкліва кажуць пра цяжкі і складаны гістарычны лёс нашага краю.

Зубр — звер міралюбівы, бяскрыўдны, калі яго не трывожыць. І разам з тым — люты, бязлітасны, калі абараняецца ад ворагаў. Зубр чуйна рэагуе на дабро і зло.



*Сябра, на стужцы вакол зубра напішы сваё імя і прозвішча, каб зубр ведаў, каго абараняе!*

# БУДЗЬ СМЕЛЫМ!

Будзь смелым!.. Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх ведучы!

Будзь смелым!.. Не вер у людскую брахню,
Вер толькі ў адвагу і сілу сваю!

Будзь смелым, хоць путалі б злыдні ўвакруг, —
Адважным ваякам не страшны ланцуг!

Будзь смелым, як вецер, як воля сама!
Знай, смелых не чэпе ні крыўда, ні цьма!

Будзь смелым, як бура, што крышыць дубы,
А будзе твой верх, тваё права ўсягды!



Малюнак «Зубр», **Макс Пякарскі**
Верш «Будзь смелым!», **Янка Купала**

**РАДАВОД** — генеалагічнае дрэва, якое паказвае роднасныя сувязі ў выглядзе разгалінаванага дрэва. Мець радавод варта кожнаму шчыраму беларусу, які шануе продкаў, ведае гісторыю свайго роду і краю.



*У каранях дрэва напішы сваё прозвішча, на ствале намалюй герб свайго роду, а на галінках пазнач бацькоў, дзядуль, бабуль і іншых сваякоў.*

# ПРОДКІ

Калі марнею ад нягод
і сэрцу цесна,
Я ўспамінаю радавод
і продкаў песні.
Яны ідуць за годам год
З мячом і з плугам.
О, мой нязводны род,
Ён моцны духам.
Імёны памяць берагла,
Вяла праз церні,
Каб я не сеяў зла,
А толькі — зерне.
Да іх іду я зноў і зноў,
Ім веру свята,
Таму й вяду сваіх сыноў
Да іх на раду.



Малюнак «Радавод», **Алена Шаліма**
Верш «Продкі», **Алесь Пісьмянкоў**

**СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ** — адна з нацыянальных рэліквій беларусаў, цудоўны ўзор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, які стаў не толькі гістарычным і культурным сімвалам, але і сучасным брэндам Беларусі. Гэта вырабы ручнога ткацтва ў Вялікім Княстве Літоўскім, элемент мужчынскага параднага строю шляхты.

Ткалі іх у Слуцку на мануфактуры шаўковых паясоў. Паясы перадаваліся ў спадчыну, іх насілі толькі багатыя прадстаўнікі шляхты.

Насуперак вершу Максіма Багдановіча, паясы ткалі толькі дужыя мужчыны: працэс ткацтва патрабаваў вялікай фізічнай моцы. Існуе нават легенда, што калі жанчына да іх дакранецца, то ўсе срэбныя ніткі пацямнеюць.

# СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага ўзора,
Цвяток радзімы васілька.



Малюнак «Слуцкія паясы», **Алена Шаліма**
Верш «Слуцкія ткачыхі», **Максім Багдановіч**

**ГАНЧАРСТВА** — традыцыйнае беларускае рамяство, агульная назва вытворчасці гліняных вырабаў гаспадарчага і дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння.

Спачатку вырабы проста ляпілі рукамі, пазней — з дапамогай ганчарнага круга. Для абпальвання керамікі будавалі невялікую печ-горан з камянёў. Калі вырабаў было нямнога, толькі для сваёй гаспадаркі, абпальвалі ў хатняй печы. У сялянскай сядзібе выраблялiся толькі самыя простыя і неабходныя ў гаспадарцы рэчы. Прыгажэйшыя і больш складаныя ў вырабе можна было купіць на кірмашы ў местачковых рамеснікаў.

У цяперашні час у Беларусі вылучыўся асобны народны промысел – мастацкая кераміка і ганчарства. Шматлікімі майстрамі ствараюцца сувенірна-падарункавыя і ўтылітарныя вырабы, прадметы інтэр'еру, лялькі і інш. Склаліся самабытныя школы з характэрным для этнічных рэгіёнаў асартыментам, стылістыкай формаў і каларыту. У кожнай школы маецца свой характэрны почырк — формы рэльефаў і ліній, спосабы лепкі і роспісу.

# ШЧАСЦЕ

Простае шчасце людское,
Так як і наша з табою,
Пэўна, складаецца з солі,
З хлеба, сабранага ў полі,
З поту, дарожнага пылу,
З роднага небасхілу,
З дружбы, мацнейшай ад смерці,
З песні... І так мне здаецца:
Каб з чаго іншага скласці,
Дык ці было б яно шчасцем?



Малюнак «Збанок», **Алена Шаліма**
Верш «Шчасце», **Максім Танк**

**БУЛЬБУ** пачалі вырошчваць у Беларусі на тэрыторыі сучаснай Гродзеншчыны ў часы караля польскага і вялікага князя літоўскага Аўгуста III. Першапачаткова беларускія сяляне ставіліся надзвычай недаверліва да гэтай агракультурнай навінкі, нават адмаўляліся яе саджаць.

Прайшло некалькі стагоддзяў, і зараз бульба ў Беларусі лічыцца нацыянальнай агракультурай, другім хлебам, адным з сімвалаў краіны, а дранікі — галоўнай народнай і традыцыйнай стравай.

## АДАМ І ЕВА [урывак]

Пакуль далёка спіць залева
І сопкі песцяцца ў смузе,
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу
У тайзе.
Конь пасвіцца,
Бялее грыва
З перастаялае травы.
Спрадвечны сум
Апаў тужліва —
Лятуць у вырай журавы.
Услед махаюць
Крыллем кволым.
Кусты, лімонніцы, чмялі.
Спрадвечных дрэў
Спрадвечны кворум,
Спакой спрадвечны на зямлі.
На момант
Сэрца ён асіліць,
І здасца,
Што няма трывог,
Што з недалёкай Хірасімы
Не паскубуць вятры мурог,
А толькі ціхія павевы
Хвалююць ільмакі ў тузе.
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу
У тайзе.



Малюнак «Бульба», **Алена Шаліма**
Верш «Адам і Ева» [урывак], **Рыгор Барадулін**

**ПАЛЯВЫЯ КВЕТКІ**, ранішняя раса, скошаны луг — так пахне Беларусь. Духмяныя, са сціплай прыгажосцю, абагрэтыя пяшчотным сонцам, напоеныя чыстым паветрам палявыя кветкі натхняюць беларусаў на рамантычныя ўчынкі і стварэнне маляўнічых ды паэтычных вобразаў.

# Я Ў ЛУЗЕ КВЕТКІ НЕ САРВАЎ НІВОДНАЙ...

Я ў лузе кветкі не сарваў ніводнай,
Ніводнай зоркі з неба не схапіў,
І, па жаданню прымаўкі народнай,
Ні разу іх каханню не дарыў.
Хай цешаць вока кветкі на палянцы,
Каб мы з табой гулялі сярод іх, —
Яны змарнеюць у гранёнай шклянцы,
Як мы без сонца сярод сцен нямых;
Да зор далёка: шляхам ехаць конным —
Не век, не два, а сто вякоў міне —
Каб іх здабыць, на караблі фатонным
Ужо ляцець не давядзецца мне.
Не вытрымае сэрца падарожжа —
Заглухне бездакорны мой матор,
Што пыл глытаў, вычыхваў бездарожжа…
Прымі яго без кветак і без зор!



Малюнак «Кветкі з поля», **Алена Шаліма**
Верш «Я ў лузе кветкі не сарваў ніводнай…», **Аркадзь Куляшоў**

**ВАЛОШКІ [ці васількі]** — блакітныя палявыя кветкі, зоркі ў спелым жыце. Шчаслівыя сінія вочы, ласкавае сонца, жыццядайнасць роднай зямлі... Пра іх пішуць вершы, спяваюць песні, а непаўторная форма пялёсткаў натхняе на стварэнне прыгожых дызайнерскіх рэчаў ды фірмовых стыляў.

Валошка — традыцыйны сімвал фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», а з 2016 года і нацыянальнай авіякампаніі «Белавія». Самалёты з Беларусі цяпер адрозніваюцца ад усіх астатніх вялікай валошкай на хвасце і васільковым колерам.



*Размалюй гэты летні вянок з валошкамі, а ў сярэдзіне намалюй (наклей) партрэт ці напішы імя блізкага і дарагога чалавека.*

# ТЫ ПАКЛІЧ МЯНЕ. ПАЗАВІ...

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды
Пачынаецца ўсё з любві —
Нават ненавісць і агіда...
Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві.
А інакш і жыць немагчыма.



Малюнак «Вянок з валошкамі», **Алена Шаліма**
Верш «Ты пакліч мяне…», **Яўгенія Янішчыц**

**ЛЯСУН** — міфалагічны вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў; гаспадар лесу і звяроў, які жыве ў лясных нетрах. Яго ўяўлялі ў выглядзе вялізнага (у рост дрэва) старога чалавека з белым, як бяроста, тварам, з вялікімі вачыма, у звярынай шкуры.

Лясун мог паказаць грыбныя і ягадныя мясціны, наганяць у бок паляўнічага звяроў і птушак, выбіраць бортнікам месца для ўстаноўкі калод, а таксама прымусіць чалавека доўга блукаць у адным месцы. Каб вярнуць таго, хто заблукаў, лясуна задобрывалі: на скрыжаванні лясных сцежак клалі хлеб з соллю ды сала.

# ЧУЕШ ГУЛ?

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы, крэпка нацягнутых, струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.

Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,
Зашамрэлі мацней каласы
І аб чым шэпча ім галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка:
Кроплі слёз ці халоднай расы?



Малюнак на аснове выцінанкі «Лясун», **Лізавета Чырвонцава**
Верш «Чуеш гул?», **Максім Багдановіч**

**ЛЁЛЯ** — міфалагічны вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў, вобраз вясны, дзявочага хараства. Уяўлялася маладзенькай, прыгожай дзяўчынай, якая ранняю вясною ходзіць па праталінах і абуджае зямлю ад зімовага сну.

Існавала павер'е, што дзіця будзе прыгожае, калі маці вынясе немаўля ў новенькай кашулі (лёлечцы) і пройдзецца з ім басанож па першай траве.

# СОК

Празрыстае шкло кубка,
Унутры — бярозавы сок
А звонку кроплі — скок, скок,
Навыперадкі кандэнсат,
Паглядзі, паглядзі назад:
На лісточкі, галінкі, пупышкі,
Каташкі, засохлыя крышку,
На зморшчаную кару,
На шрамы ствала,
Якія маланка па-кі-ну-ла.

Кроплі з вымытых валасоў
Падаюць у стакан.
У шклянога шмат галасоў,
Бы ліравхвостны падман.
На вуснах трэшчынкі ад спякоты...
Хто ты, хто ты?..
Адвечны самотны сумнеў...
Спаталі сваю смагу.
Вяртайся да каранёў.



Малюнак на аснове выцінанкі «Лёля», **Лізавета Чырвонцава**
Верш «Сок», **Даша Бялькевіч**

**ВЫЦІНАНКА** — від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ажурны ўзор, выразаны з паперы, які атрымаў распаўсюд у Беларусі, Польшчы і Украіне.

У Беларусь выцінанка прыйшла ў XIX стагоддзі, найбольш пашыраныя былі аднаколерныя выцінанкі; часам іх рабілі з некалькіх пластоў паперы рознага колеру. Узоры былі геаметрычныя, раслінныя, радзей — заамарфныя або антрапаморфныя.

З адметнасцяў беларускай выцінанкі выдзяляюць прынцып шматразовага складвання, сіметрычнасць узору, дэкаратыўнасць. Яны выкарыстоўваліся для афармлення жытла, аздаблення інтэр'еру да святаў, асобных прадметаў. На захадзе Беларусі чорнымі або паліхромнымі выцінанкамі аздаблялі пабеленыя сцены ў хатах.

# ЛЕС

Глуха шэпча лес зялёны,
І шуміць ён, і шуміць,
Гоман доўгі, нескончоны
Цэлы дзень над ім стаіць.
Пераблытаны галіны
У адзін шалаш жывы...
Лес! Аб чым шумяць вяршыны?
Лес! Што шэпчаш, векавы?
Толькі ж лес гудзе-ракоча
Цёмнай шапкай верхавін,
Толькі ж лес сказаць не хоча,
Што ён ведае адзін.



Малюнак на аснове выцінанкі «Белавежскія зубры», **Наталля Гамаюнава**
Верш «Лес», **Якуб Колас**

**КУПАЛЛЕ** — адно з найстарадаўнейшых народных святаў, прысвечаных сонцу, росквіту зямлі і, безумоўна, каханню!

На Купалле беларусы праводзілі шмат сімвалічных абрадаў: збор лекавых кветак і траў, скокі праз купальскае вогнішча, варажба з пусканнем па вадзе вянкоў, прашэнне багатага ўраджаю. Увечары ўсіх чакала абрадавая вячэра, падчас якой спявалі, вадзілі карагоды і праводзілі вясёлыя гульні. Завяршалася свята абрадам ачышчэння вадой на ўзыходзе сонца.

# У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

У купальскую ноч
над праcторамі вод
цалаваліся явар з калінаю.
Як драмалі палі,
засынаў небасвод, —
я спаткаўся з чароўнай дзяўчынаю...
Як драмалі палі,
а ў палях ды туман,
ой, туман-малачай серабрысты
жыта рунь палівай
і кудзеліў твой стан, —
мы ступалі далінай імглістай.
А ў даліне ў цішы
чырвань-кветкі цвілі,
ты вяночкі пляла прамяністыя.
Залаціўся агнём
золак ранні ўдалі,
як мінулі даліну імглістую.

І пайшлі, і пайшлі
мы на вольны прасцяг,
у прасторы палёў сінявокія.
Толькі спевы дзяўчат,
ой, ды спевы жыцця
усплывалі далёка, далёка…
Не развесісты гай
гаманіў пад гарой,
не зязюля ў гаі кукавала, —
у купальскую ноч
пры спатканні з табой
ты аб шчасці з запалам спявала.



Малюнак на аснове выцінанкі «Купалінка», **Наталля Гамаюнава**
Верш «У купальскую ноч», **Паўлюк Трус**

**КУПАЛЬСКІЯ ЗЁЛКІ** — расліны, якія атрымлівалі чароўныя ўласцівасці на Купалле. Нашыя продкі верылі, што ў дзень летняга сонцастаяння сілы прыроды ўзрастаюць, а травы набываюць магічныя і лекавыя якасці.

З кветак плялі вяночкі для варажбы, купальскія зёлкі ўторквалі ў сцены між бярвеннямі, загадваючы на добры лёс родных людзей.

# Я З ТАБОЮ

Я з табою. Не бойся. Ніколі
Не сыйду па ўсяведнай траве.
Пальцы чэпкім карэннем магнолій
Прарастуць скрозь далоні твае.
Быццам плюшч, што дубы аплятае,
Паглыбляюся ў сэрца да дна
І гляджу, як пад намі, святая,
Пралівае стагоддзі вясна.
Разлятаюся тысячай птушак,
Разрываюся тысячай зор,
Дзікай жарсцю, крывавай і душнай,
Напаўняю маўклівы прастор.

Валасы мае — цёмныя рэкі,
Што бруяцца ля стомленых ног...
Мой вандроўнік, настаўнік ды лекар –
Не злічыць тваіх твараў-дарог.
Я з табою, куды б ні пайшоў ты,
Дзе б ні меў свой прытулак ды хлеб,
Ад слядоў маіх полымем жоўтым
Пры дарогах цвіце кураслеп.
Я з табою. На дзень. На імгненне.
На бясконцую процьму вякоў.
Мы жывыя, каханы. Павер мне.
Мы — зямлі гэтай цела ды кроў.



Малюнак «Лета ў Беларусі», **Алена Шаліма**
Верш «Я з табою», **Кацярына Ваданосава**

**БОРТНІЦТВА** — старажытны промысел і першасная форма культурнага пчалярства беларусаў, заснаваная на ўтрыманні і развядзенні пчол у борцях, прыстасаваных для гэтай мэты натуральных ці адмыслова выдзеўбаных дуплах у дрэвах.

Гэты промысел развіўся з дзікага пчалярства, пры якім з выпадкова знойдзенага дупла забіралі ўвесь мёд, папярэдне знішчыўшы агнём і дымам сям'ю пчол.

З цягам часу беларускія бортнікі выпрацавалі свае тэхналогіі ўтрымання пчол, вырабу борцяў, прылад і прыстасаванняў для бортніцтва, якія адрозніваюцца ў залежнасці ад рэгіёна Беларусі.

# ПАНУЕ ЗОЛАТА НАД СВЕТАМ...

Пануе золата над светам,
сцякае з неба ўніз.
Дзесь паміж восенню і летам,
здаецца, свет завіс.

Лунае залатое рэха,
бурліць, бы ў сэрцы кроў, —
планету, як галіну дрэва,
абвіў пчаліны рой.

Дзень для вачэй дае прытулак
і залацістых кос.
І адгукаюцца мінулым
пан Лес, пан Лён, пан Лёс…

Свет сёння зноўку заначуе
у залатым вуллі…
І толькі ўважлівы адчуе
смак нашае зямлі.



Малюнак на аснове выцінанкі «Пчаліны рай», **Вольга Palunisa**
Верш «Пануе золата над светам…», **Мікола Кандратаў**

**КРУМКАЧ [ці груган, воран, крук]** — птушка сямейства крумкачовых, самая буйная птушка ў атрадзе вераб'інападобных: даўжыня да 70 см, маса да 1,6 кг. Апярэнне чорнае з сінім, зеленаватым ці фіялетавым металічным адлівам. Дзюба — моцная, чорная.

У Беларусі трапляецца на палях, каля населеных месцаў, трымаецца невялікімі (да 10 асобін) чародамі, у час гнездавання — у хваёвых лясах парамі.

У Беларусі існуе футбольны клуб «Крумкачы», а таксама піўны гатунак з такой назвай.

# ПРАШЭННЕ

Калі я адыду, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне.
Засведчыць крыж,
Што адышоў з імшой
Паганец кшчоны,
Уніят душой.

Крумкач, як чорны плач,
На валуне
Спачне, і значыць,
Памяне мяне.

І стрыж, як крыж здранцвелы,
Прамільгне,
Цень студзячы ў труне
На самым дне.

Калі я замаўчу, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне…



Малюнак на аснове выцінанкі «Крумкач», **Ніна Сакалова-Кубай**
Верш «Прашэнне», **Рыгор Барадулін**

**АНЁЛЫ** — гэта духоўныя істоты, якія маюць розум і свабодную волю, яны абараняюць нас ад злога і заахвочваюць выбіраць дабро. Анёлы здольныя ўплываць на нашыя пачуцці і ўяўленні, аднак не маюць уплыву на нашу волю. Яны не могуць выбіраць за нас, хоць і заахвочваюць нас усімі магчымымі спосабамі ісці за тым, што з’яўляецца добрым і шчырым. Так кажа хрысціянская традыцыя пра гэтых «службовых» духаў.

# ПЕСНЯ І КАЗКА

Песня і казка
Ходзяць у пары,
Сеюць па свеце
Дзівы і чары,

Будзяць спрасоння
Думкі дзіцячы,
Як той уранні
Промень свяцячы.

Песня і казка,
Як у крышталі,
Свету пакажуць
Тайныя далі.

Шляхі намецяць
К сонцу і зорам
Для людской долі,
Скованай горам.

Песня і казка
У райскіх праявах
Шчасце збудуюць
З кветак яскравых.

Сэрца атуляць
Вечнаю ласкай...
Слухай жа, сэрца,
Песняў і казкаў.



Малюнак на аснове выцінанкі «Анёл», **Ніна Сакалова-Кубай**
Верш «Песня і казка», **Янка Купала**

**МІРСКІ ЗАМАК** — адна з важнейшых турыстычных кропак Беларусі, выдатнае абарончае збудаванне XVI стагоддзя, занесенае ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Замак размешчаны ў мястэчку Мір Гродзенскай вобласці.

Удалае спалучэнне архітэктурных стыляў готыкі, барока і рэнесансу робіць Мірскі замак адным з найбольш адметных замкаў у Еўропе.

# БАЛАДА МІРСКАГА ЗАМКА

У Мірскім замку сёння светла,
У Мірскім замку сёння лета,
І лёт стралы, як лёд, растаў,
Бо замак сонечна паўстаў
На скрыжаванні ўсіх шляхоў,
На скрыжаванні ўсіх вятроў.
У гэтым свеце, дзе ёсць мы
І нашы родныя дамы,
З якіх глядзім і бачым свет,
Які любіць нам і ствараць,
Нібыта замак будаваць
Сярод шляхоў, сярод вятроў,
Сярод разбураных муроў,
Што баранілі нас, каб мы
Сярод агню, сярод зімы
Свой мелі шлях, свой мелі сцяг
І роду слаўнага працяг
На скрыжаванні ўсіх шляхоў
На скрыжаванні ўсіх вятроў,
Як Мірскі замак, не знікаў.
І часу лёт, як лёд, сцякаў
На гэты край жывой вадой,
Каб мы сустрэліся з табой
У Мірскім замку ў гэты час,
Які стралой ляціць праз нас…



Малюнак «Мір», **Алена Шаліма**
Верш «Балада Мірскага замка», **Віктар Шніп**

**НАВАГРУДСКІ ЗАМАК** быў пабудаваны ў XIV—XVI стагоддзях, у яго сценах праходзілі дзяржаўныя сеймы, сустрэчы паслоў і каралёў. Гэта ўнікальнае збудаванне абарончага дойлідства размешчана на Замкавай гары, акружанай ровам.

Да нашых дзён захаваліся руіны Шчытовай і Касцёльнай вежаў. Яны з'яўляюцца папулярнымі турыстычнымі аб'ектамі. На тэрыторыі замка штогод праходзяць рыцарскія фестывалі, якія збіраюць тысячы гледачоў.

Штораз цямней, праймае золкі вецер,
Туман ля споду, а ўгары высока
Між чорных хмараў у сівым прасвеце
Няпоўны месяц сонна жмурыў вока.
І свет здаваўся велічэзным гмахам,
А неба ў ім жывым скляпеннем-дахам,
А месяц тым акном, адкуль дзень свеціць.
З гары высокай замак Навагрудка,
Ад месяца прыняўшы пазалоту,
Праз насыпы і рова развароты
Адкідваў ценю слуп, руды і гнуткі,
Глыбока ўніз, туды, адкуль з цясніны
Вада ўздыхала з-пад глыбокай ціны.
Агні ўжо згаслі ў горадзе і замку,
І толькі зрэдку адгукнецца варта
То з вежы, то з другога дзесь напрамку…



Малюнак «Навагрудак», **Алена Шаліма**
Урывак з паэмы «Гражына», **Адам Міцкевіч [пераклад П. Бітэля]**

**БЕЛАРУСЬ** — краіна на скрыжаванні культур і канфесій, тут захаваліся шматлікія старадаўнія праваслаўныя цэрквы і манастыры, касцёлы, сінагогі і мячэці, драўляныя храмы.

Дзякуючы перапляценню рэлігій і архітэктурных стыляў, храмавая архітэктура Беларусі своеасаблівая і незвычайная, а многія з культавых збудаванняў — абсалютна ўнікальныя.

# РАЗМОВА

І ты паўстанеш перад Ім — аголены,
на мяжы пекла і раю —
са словамі:
«дай мне параду!»
Ён не спытае,
якія ты займаў пасады.
Яго не цікавіць, браце,
якая ў цябе адукацыя.
«бачыш, там ззяе тваё сузор’е», —
скажа Ён, і сэрца моцна заб’ецца.
А потым дадасць:
«ці зрабіў ты нешта з любоўю?», —
і ўсміхнецца.



Малюнак «Траецкі касцёл у мястэчку Відзы», **Алена Шаліма**
Верш «Размова», **Кацярына Массэ**

**АЗЁРЫ БЕЛАРУСІ** — вядомая адметнасць і гонар нашай краіны. На тэрыторыі Беларусі знаходзіцца больш за 10 тысяч азёраў. Самае вялікае па плошчы — Нарач, самае глыбокае — Доўгае. Найбольш азёраў на поўначы краіны — у Беларускім Паазер'і і на поўдні — у Беларускім Палессі.

У Браслаўскім і Вушацкім раёнах пад азёрамі знаходзіцца да 10 % тэрыторыі. Тут азёры ўтвараюць групы або ланцужкі, звязаныя невялікімі рэкамі і пратокамі. Вушацкая група ўключае каля 40 азёраў, а браслаўская — больш за 50.

# РАЗВІДНЕЛА

Развіднела.
На вуліцы выйшлі
З сутарэнняў
Замшэлых з табой
І чырвоным,
Як спелая вішня
Наліліся…
І сонца з вадой,
Што ў далонях
Сваіх згартавалі
Чырвань тую
І песцілі нас,
Заблішчалі
Сцяжынай на хвалях,
Па якой мы
І крочым скрозь час.



Малюнак «Возера», **Алена Шаліма**
Верш «Развіднела», **Алесь Плотка**

**БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА** — адзін з самых старых запаведных лясных масіваў Еўропы, уваходзіць у лік пяці нацыянальных паркаў Беларусі і з’яўляецца самым вялікім лесам у Цэнтральнай Еўропе.

У пушчы растуць 900 відаў раслін, у тым ліку рэдкіх і знікаючых. Парк вядомы сваімі старажытнымі дубамі, узрост якіх перасягае 500 гадоў.

Белавежская пушча занесена ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА і з'яўляецца прыродным месцам пражывання самага буйнога прадстаўніка еўрапейскай фауны — зубра.

У цэнтры пушчы знаходзіцца маленькая вёска Віскулі, дзе ў 50-я гады быў пабудаваны палац, які служыў рэзідэнцыяй кіраўнікоў СССР, а зараз — Беларусі. У 1991 годзе там было падпісана вядомае «Белавежскае пагадненне», якое спыніла існаванне СССР і дало пачатак узнікненню незалежнай Рэспублікі Беларусь.

…Дрэвыператворацца ў вялікіх птушак
І да зорак, як да гнёздаў, палятуць
Поўню жоўтую, нібы ліхтар, патушаць
І аблокі, быццам павуту, парвуць.
І глядзець ты будзеш, як яны знікаюць
У высокай далі, дзе табе не быць,
Бо ў далечы нас з табою не чакаюць,
Нам з табою гэты край любіць —
І глядзець на неба, быццам на ікону,
І маліцца Богу, і свой шлях шукаць,
І ў зямное шчасце верачы да скону,
Што такое шчасце, толкам і не знаць…
Дрэвы ператворацца ў вялікіх птушак
І разбудзяць пад асфальтамі траву,
Быццам Беларусь у адзінокіх душах,
Што яшчэ, як птушкі, на вятрах жывуць…



Малюнак на аснове выцінанкі «Буслы ў лесе», **Юрый Малышэўскі**
Верш «…Дрэвы ператворацца ў вялікіх птушак», **Віктар Шніп**

**МЯСТЭЧКА РУЖАНЫ** ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах напрыканцы XV стагоддзя. У тыя ж часы Ружаны славіліся вытворчасцю сукна і дываноў, мастацкіх паясоў, керамікі. Тут жа праходзілі вялікія кірмашы.

У 1598 годзе маёнтак у Ружанах купіў знакаміты магнат і палітычны дзеяч, адзін з аўтараў Статута Вялікага Княства Літоўскага — Леў Сапега. Менавіта па яго загадзе ў пачатку XVII стагоддзя тут пачалося грандыёзнае будаўніцтва. У Ружанах з'явіўся замак з трыма вежамі, які спалучае ў сабе рысы абароннай крэпасці і параднага палаца.

Палацавы комплекс у Ружанах — адзін з унікальных куткоў Беларусі, найпрыгажэйшы архітэктурны ансамбль, які называюць беларускім Версалем.

# РУЖАНЫ

Над горадам малым, шматвекавым,
З гісторыяй, касцёлам і царквамі,
Палац узнёсла панаваў між іншым,
Як і ўяўленне наша аб былым.
Але ў мінулым надта горкі дым.
Меч звонкі быў заглушаны гарматай.
Разбураны палац... і,
Што між іншым,
Як і ўяўленне наша аб былым.



Малюнак на аснове выцінанкі «Ружаны», **Юрый Малышэўскі**
Верш «Ружаны», **Сяргей Амяльчук**

**ЛОСЬ** — спрадвечны жыхар на беларускіх прасторах, магутны гаспадар нашых лясоў. Лад жыцця характарызуецца маларухомасцю. За дзень лось праходзіць кіламетр-паўтара, а калі дастаткова ежы, то можа перасунуцца ўсяго на 100—300 метраў. Бурая спіна і светлыя ногі робяць яго малазаўважным нават у зімнім гайку.

З пачатку жніўня лось пачынае вастрыць рогі аб маладыя дрэўцы, рыхтуючыся да шлюбных баёў. У сярэдзіне верасня самцы пачынаюць мычаць, прызываючы суродзіча на схватку за самку. Бойкі самцоў вельмі жорсткія, хаця і не працяглыя. Калі сілы няроўныя, то слабейшы хутка збягае. Але калі б'юцца два роўных па моцы самцы, то гэта можа быць бойка да пагібелі.

# ЛАСЯНЯ З ЛАСІНЯН

Лось Алесь з ласіхай Лесяй
Век жылі ў нашым лесе,
Ды бяздзетныя былі,
Ласянят не нажылі.
Аж калі ўжо пастарэлі,
Дзіцянятачка займелі:
Ласянятка добры лёс
На пацеху ім прынёс.
А маленькі лось Алесь
Кропля ў кроплю — татка ўвесь!
Рады вельмі мама з таткам:
Вось на славу ласянятка —
Ножкі дыгнастыя,
Галоўка лабастая,
Глядзелкі вачастыя —
Па ўзлеску шастае!



Малюнак на аснове выцінанкі «Ласі», **Юрый Малышэўскі**
Верш «Ласяня з Ласінян», **Міра Лукша**

**ДЗЕНЬ ВОЛІ** — свята, якое адзначаецца беларусамі 25 сакавіка, у гэты дзень у 1918 годзе Рада БНР прыняла Трэцюю Устаўную грамату, у якой абвесціла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

БНР — калыска сучаснай беларускай дзяржаўнасці, якая аб’яднала вакол сябе найлепшых прадстаўнікоў тагачаснага грамадства краіны, якія марылі пра моцную і незалежную Беларусь.

## БУДЗЬ ЦВЁРДЫ

Ты не гніся, брат, ніколі
Траўкаю пахілай,
Сам пружыны своёй долі
Выкуй ўласнай сілай!
Бо хоць кажуць, што з уклону
Не баліць галоўка, —
Не зважай: з ярма-прыгону
Выйшла гэта слоўка.
Не прасі, не спадзявайся
Ты на дапамогу,
Сам з нягодамі змагайся,
Сам прабі дарогу!
Хоць памогуць табе людзі
Адшукаць дарогі,
А саб'ешся, зноў ты будзеш
Абіваць парогі.
Не лісціся к сільным, дружа,
Зеллейкам-бярозкай,
Бо не выйдзеш век з-пад гужа,
Страціш вобраз боскі,
І ў людзей ты гонар страціш —
І цябе зракуцца:
Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца.



Малюнак на аснове выцінанкі «Барацьба», **Юрый Малышэўскі**
Верш «Будзь цвёрды», **Якуб Колас**

## ПАХНЕ ЧАБОР

Хіба на вечар той можна забыцца?
…Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы.
Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,
Быццам абсыпана промнямі зор.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Выйсці б насустрач, стаць і прызнацца.
Вось яно — блізкае, яснае шчасце,
Клікнуць хацелася — голас замёр.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Год адзінаццаць, а можа, дванаццаць
Сэрца баліць, што не здолеў спаткацца,
Сэрца нязменна хвалюе дакор.
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Час той схаваўся за дальняй гарою,
Здасца хвілінай — яна прада мною...
Выйду. Гукаю. Маўклівы прастор.
Пахне чабор,
Пахне чабор...



Малюнак «Хвоі», **Алена Шаліма**
Верш «Пахне чабор», **Пятрусь Броўка**



*Яшчэ адна старонка для паэтычнай творчасці.*
*Нагадаем, што «Мая Радзіма Беларусь» — гэта кніга для творчасці і натхнення.*
*Спадзяемся, што малюнкі і вершы натхнілі цябе напісаць уласны верш. Месца на малюнку мы пакінулі менавіта для яго.*

# ШУКАЮ

Шукаю радасці ў журбе,
шукаю вартасці ў Айчыне,
шукаю смеласці ў сабе,
шукаю светласці ў жанчыне.

Шукаю праўды, як вар'ят,
у бочцы з дзёгцем — лыжку мёду.
Нібы ў граху — цнатлівасць, я
шукаю сонца ў люстры лёду.

Чытаю зорныя сляды —
шукаю тлумачэнняў болю.
Гады гудуць, як правады,
а я шукаю ветру ў полі.

Шукаю рэха — у гарах,
шукаю бляску іскры ў кожным,
шукаю вечнасці ў вачах…
І надараецца — знаходжу.



Малюнак «Вянок», **Алена Шаліма**
Верш «Шукаю», **Мікола Кандратаў**

**ВЕЛІКОДНЫЯ ЯЙКІ** — спецыяльна размаляваныя курыныя яйкі, якія беларусы дораць адзін аднаму на Вялікдзень.

Яйкі, афарбаваныя ў адзін колер, называюцца «фарбаванкамі», калі на агульным каляровым фоне ёсць плямы, палоскі, кропкі іншага колеру — гэта «крапанкі». Яшчэ бываюць «пісанкі» — яйкі, размаляваныя ад рукі сюжэтнымі або арнаментальнымі ўзорамі.

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Хрыстос уваскрос!
і свет прачнуўся
вясной на голлечку бяроз.
Ударыў звон на Беларусі:
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос з крыві і болю,
каб светач праўды не пагас.
Васкрос Ён для крывіцкіх сёлаў,
васкрос Ён, брацці, і для нас.
Так будзем помніць мы ў кайданах,
падняўшы сэрцы ўгару,
што так, як Бог ускрыжаваны,
уваскрэсне наша Беларусь!



Малюнак «Вялікдзень», **Алена Шаліма**
Верш «Хрыстос уваскрос!», **Ларыса Геніюш**

**КОЛА** — гэта сімвал руху і пераемнасці традыцый. Акрамя таго, гэта яшчэ і сімвал сонца — самай магутнай крыніцы энергіі.

Кола — адзін з самых яскравых, фундаментальных сімвалаў цывілізацыі. Ад вавілонскіх калясніц да сучасных аўто — нідзе немагчыма абыйсціся без кола.

У беларускай традыцыйнай культуры кола яшчэ ўспрымалася як сімвал аховы жытла, людзей і хатняй жывёлы. Напрыклад, кола пад страхой нібыта абараняла курэй ад налётаў драпежных птушак.

# КОЛА ЛЁСУ

Ці то помста, ці жарт — не ведаю,
Гісторыя паўтараецца.
Лёс, што было тваёй мэтаю?
Ці ты хмурышся, ці ўсміхаешся?

Другі шанец, другая спроба —
Памылкі патрэбна выправіць.
Лёс, я прымаю тваю прапанову:
Перапісаць, чорнае выбеліць.

Час з нас смяецца. Неверагодна.
Ільецца жыццё халоднай вадой.
Ты можаш ісці куды заўгодна,
Адкажы: мне ісці за табой?



Малюнак на аснове выцінанкі «Пеўні», **Лізавета Чырвонцава**
Верш «Кола лёсу», **Даша Бялькевіч**

**ПТУШКІ БЕЛАРУСІ** — гэта 320 відаў крылатых, якія часова ці пастаянна жывуць у нашай краіне. 227 відаў гняздуюцца ў Беларусі і прадстаўлены ў асноўным ляснымі відамі ды жыхарамі ўзбярэжжаў рэк і азёраў, верхавых і нізінных балот.

На зімоўку ў Беларусі застаецца каля 60 відаў у цэнтральных раёнах і да 85 — на Палессі.

Лясы нырнулі ў хмары шэрыя,
Прыкрыўшы голлем птушанят.
А ты смяялася, не верыла,
Што будзе дождж, што будзе град.
Углыб, углыб усё імчалася
І за сабой мяне вяла;
Хавала вочы і смяялася
І нейкай дзіўнаю была.
А гром рыкаў ужо раз’юшана
За кожнай елкай і сасной.
І прашаптала ты ўзрушана:
«Што ж нам рабіць, харошы мой?»
А елка, хітрая і цёмная,
У сховішча пазвала нас.
Я вочы цёмныя, бяздонныя
Так блізка ўбачыў першы раз.

Завесілі нас ліўні белыя,
Загінуў свет, дарог няма.
І да мяне, заўжды нясмелая,
Ты прыгарнулася сама.
Стагналі дрэвы мнагарукія,
Ламаўся з грукатам прастор,
І сэрцы ў лад грымотам грукалі,
І бліскавіцы секлі бор…
Забуду ўсё: сяброў і вершы я,
Ды зберагу да скону дзён
Гарачых вуснаў шчырасць першую,
Ігліцы пах і ліўня звон.



Малюнак на аснове выцінанкі «Птушкі», **Лізавета Чырвонцава**
Верш «Лясы нырнулі ў хмары шэрыя…», **Пімен Панчанка**

**КАЛЫХАНКА** — простая паводле зместу і выяўленчых сродкаў пяшчотная песня, пад якую маці закалыхваюць сваіх дзяцей. Дзякуючы калыханцы дзіця хутчэй і лягчэй авалодвае роднай мовай, атрымлівае першыя ўяўленні пра навакольны свет, развівае пачуццё моўнага і музычнага рытму.

# КАЛЫХАНКА

Сон ніяк не бярэ, хоць стома
агарнула яшчэ пад вечар?
Паратунак даўно вядомы:
можна доўга лічыць авечак.

Супакойся, заплюшчы вочы —
бо разгадка тваёй таямніцы
дужа простая: сёння ўночы
ты не спіш, каб камусьці
сніцца.



Малюнак на аснове выцінанкі «Карагод», **Лізавета Чырвонцава**
Верш «Калыханка», **Антон Рудак**

**ЦАР-ДУБ** — назва дрэў у шэрагу мясцовасцяў Беларусі, дзё яны лічацца найстарэйшымі.

Найбольш знакаміты цар-дуб 850 гадоў расце каля вёскі Дубічна ў Пажэжынскім лясніцтве Маларыцкага раёна. Гэта самае старое і самае высокае дрэва беларускіх лясоў. Вышыня складае 46 метраў, дыяметр ствала — каля 2 метраў.

# ДРЭВА

Дрэва трымаецца за зямлю
Дрэва трымае неба
Зямля забірае попел ад дрэва
Неба забірае дым ад дрэва
А мне застаецца цяпло
А мне застаецца дрэва
Якое будзе труной
І ніхто не знае дзе тое дрэва
Але яно трымаецца за зямлю
Але яно трымае неба
А я іду да дрэва
І я губляюся сярод дрэў
І я знаходжу дрэва
Якое саграе мяне
Пакуль я іду.



Малюнак на аснове выцінанкі «Алені і птушкі», **Лізавета Чырвонцава**
Верш «Дрэва», **Віктар Шніп**

**БУСЕЛ** — белая птушка з чорнымі канцамі крылаў, гнуткай шыяй, тонкай чырвонай дзюбай і доўгімі нагамі з'яўляецца сапраўдным сімвалам Беларусі. Невыпадкова, дзякуючы гэтай велічнай птушцы і Уладзіміру Караткевічу, з'явілася мастацкая назва нашай краіны «Зямля пад белымі крыламі».

# БУСЕЛ

Выйшаў бусел на балота,
Па калені ўвяз.
— Працягніце, жабкі,
Лапкі —
Пацалую вас.
— Крум-крум, крум-крум,
Крум-крум, крум-крум,—
Жабкі ў адказ,—
Адчапіся, страшны бусел,
Не палохай нас.
Есці ўжо табе ахвота —
Соладка пяеш.
А як выскачым з балота,
Возьмеш праглынеш.
Ходзіць, ходзіць,
Маршыруе бусел:
— Кля-кля-кля,—
Я спачатку пацалую.
Праглыну пасля.



Малюнак «Буслянка», **Алена Шаліма**
Верш «Бусел», **Ларыса Геніюш**

**У ВЫРАЙ** беларускія буслы ляцяць чарадою да самай Афрыкі. Штодзённа птушкі могуць праляцець да 150 кіламетраў. Восеньскі пералёт цягнецца ад 1,5 да 2 месяцаў.

Буслы ляцяць двума маршрутамі: праз Гібралтар ці Басфор. Яны ляцяць над Турцыяй, абмінаюць Міжземнае мора, далей уздоўж ракі Іардан, праз Сінайскі паўвостраў, над Чырвоным морам у Афрыку, у даліну Ніла.

Маладыя птушкі, якія вылятаюць у вырай, назад вяртаюцца толькі праз 3-4 гады, набраўшы дастатковую колькасць сіл. Частка буслоў не вяртаецца ў Еўропу з Афрыкі, яны там жывуць і гняздуюцца.

Штогадова ў Беларусі гняздуецца каля 20 тысяч пар белых буслоў.

# СВАБОДА

Свабода… 7 літар, якія
як ода, яны вабяць нас

баладай
яскравай багіняй,
якая
выплясвае вальс

Жанчынай прыгожай жанчынай
Венерай, якой сніцца Марс

І одум
маўкліва знясіліць —
яна ёсць
у кожнага з нас!

І потым
мы станем цнатлівей
можа быць,
зменіцца час

і подых. — ці стаў ты шчаслівы?
таксама пацішыцца ўраз

…свабода…
сем літар, якія,
якія
ёсць у кожнага з нас….



Малюнак «У вырай», **Алена Шаліма**
Верш «Свабода», **Алесь Плотка**

# СПАТКАННЕ З ВЕЧНАСЦЮ

Снягі сплываюць зноў у Белавежы.
Ці снежань на двары, ці сакавік?
Нібыта вечнасць, зблытаўшы ўсе межы,
згубіла дням і порам года лік.
Мы тупаем — як шыі не знявечым! —
па некранутым часам гушчары.
А ўсё — дзе дзеля кароткае сустрэчы
з паслом дагістарычнае пары.
І вось насустрач нам сцяжынай коўзкай
ідзе хадой упэўненай наўздзіў,
той зубр, якому некалі Гусоўскі
паэму на латыні прысвяціў.
У рухах ані кропелькі знямогі,
хоць шлях яго пралёг цераз вякі.
На лбе крутым закручаныя рогі —
нібыта ў хмары два маладзікі.
Між сосен, што стаўпіліся наўкола,
ён прыпыніўся і застыў на міг,
як рукапіс Гусоўскага Міколы
у рэдкім радзе векавечных кніг.
Той рукапіс, зусім ужо забыты
пад тоўшчай пылу старажытных сховў,
як зубр, дарэшты знішчаны нібыта,
у нашу рэчаіснасць увайшоў.
У ручаінах сонца залатое
гарыць, зіму паблытаўшы з вясной.
А я гляджу. І думкі ўсе пра тое,
што ўвачавідкі вечнасць прада мной.
Яны жывуць і будуць жыць заўсёды
як натуральнай еднасці ўзор —
тварэнне неўміручае прыроды
і чалавечага натхнення твор.



Малюнак «Зубр», **Алена Шаліма**
Верш «Спатканне з вечнасцю», **Артур Вольскі**

**ГУСІ** адлятаюць у вырай — зіму на хвастах цягнуць — трапна сведчыць беларуская прымаўка. Адлёт гусей на зімоўку заўсёды вызывае сумныя эмоцыі, бо мы не можам з імі паляцець, а застаемся чакаць вясны і іх вяртання ў Беларусь.

Самотная ляціць у небе гусь,
Насустрач ёй — гуськом у вырай гусі:
— Куды ляціш сама? — У Беларусь!
— Адкуль жа ты такая? — З Беларусі...



Малюнак «Гусь», **Алена Шаліма**
Верш «Самотная ляціць у небе гусь…», **Георгій Ліхтаровіч**

**БЕЛАРУСКАЯ МАЛЯВАНКА** — традыцыйны від беларускага народнага мастацтва па размалёўцы дываноў. Маляваныя дываны былі ў вялікай модзе ў 30-50-я гады XX стагоддзя.

У вяскоўцаў яны лічыліся прыкметай дабрабыту. На кірмашах заходнебеларускіх мястэчкаў платы былі абчэплены мноствам такіх маляванак. А па вёсках хадзілі мастакі, якія стваралі дываны на замову.



*Гэтыя кветкі — падарунак для сяброў. Размалюй, дадай верш, малюнак ці фотаздымак і падары сябру ці сяброўцы.*

Так, мы — сябры па сэрцу і па зброі,
Вядомы арсенал байцоўскі наш:
Чарніла і чарніліца, пяро і
Хімічны альбо просты карандаш.
Мне нечым перад вамі ганарыцца,
Сябры!.. Адны ў нас пушчы і палі,
Засмаглымі радкамі з іх крыніц мы
Адзін і той жа халадок пілі.
Мне на жыццёвых шалях перавагі
Лёс не адважыў. Толькі ў тым яна,
Што доўгі шлях маёй няўтольнай смагі
Не абарвала ранняя труна,
Што я далей друкую крок, нібыта
Па бітым шкле — па муках, па вайне...
А ўсё, што мною знойдзена, набыта,
Належыць дружбе нашай, а не мне.



Малюнак «Вянок», **Алена Шаліма**
Верш «Так, мы — сябры па сэрцу і па зброі... », **Аркадзь Куляшоў**

**ПАГОНЯ** — герб Вялікага Княства Літоўскага, які атрымаў статус дзяржаўнага ў час княжання Вітаўта, дзяржаўны герб Беларускай Народнай Рэспублікі (1918—1919) і Рэспублікі Беларусь (1991—1995).

Герб «Пагоня» — галоўны нацыянальны і гістарычны сімвал беларусаў — у класічным выглядзе ўяўляе сабою выяву ўзброенага воіна на белым кані на фоне чырвонага шчыта. Вершнік трымае ў паднятай правай руцэ меч, у левай — шчыт з залатым шасціканцовым крыжом. З левага боку ў вершніка — ножны мяча, з-пад сядла звісае трохканцовая вупраж.

# ЖЫВІ, БЕЛАРУСЬ!

Жыві, Беларусь! Веру, будзеш жыць заўсёды.
Святло «Пагоні» будзе сэрцы нашы акрыляць.
Жыве, жыве наш край пакутны і свабодны,
Нескароная нікім і святая зямля.
Беларусь! Беларусь! Хай цябе мінуць усе нягоды,
Век у шчасці жыві, ты, Радзіма мая!
Жыве Беларусь — нашай долі абуджэнне.
Краіна-маці, ты прызнанне шчырае прымі:
Жыве! Жыве! Гучыць узнёсла блаславенне,
Беларускі вольны дух уваскрос з даўніны.
Беларусь! Беларусь! Мы тваё вітаем адраджэнне,
Будзеш вечна вольнай ты, будзем вольнымі мы.
Жыве Беларусь! Нас нядоля не здалела.
Магутны Божа, беражы Айчыну з году ў год.
Жыве! Жыве! Як непагасны сімвал веры,
Будзе вечна на зямлі паспаліты наш род.
Беларусь! Беларусь! Пад штандарам бел-чырвона-белым
Век у шчасці жыві, беларускі народ!



Гістарычныя выявы герба «Пагоня», **пампуйце на artsiadziba.by**
Верш «Жыві, Беларусь!», **Уладзімір Някляеў**

**ПЕЎНІК [ці певень]** — гэта не толькі традыцыйная птушка на беларускім падворку, але і герой шматлікіх казак, песень і народнай творчасці. Пеўнікаў вышываюць на ручніках, выразаюць выцінанкамі з паперы, вырабляюць з дрэва і металу ды ўпрыгожваюць фасады дамоў.

# ВЯРТАННЕ

Калі ў сваёй вандроўцы
Я адлучаюся далёка
Ад Радзімы
І ўжо ня чую яе
Пеўняў на зары,
Не адчуваю паху яе хлеба,
Ня бачу прызыўных яе агнёў,
А ў мае песні пачынаюць залятаць
Чужыя птушкі, воблакі, вятры, —
Як блудны сын, вяртаюся дамоў.

Вось і сягоння
Стаю ля бацькаўскага парога,
Чакаю: ці даруюць?
І ў той жа час
Аб новай мару Адысеі.



Малюнак на аснове выцінанкі «Пеўнікі», **Ніна Сакалова-Кубай**
Верш «Вяртанне», **Максім Танк**

**ЛЮБОЎ ≠ КАХАННЕ.** У сучаснай беларускай мове значэнні гэтых словаў не супадаюць. Любоў можа быць да маці і да Радзімы, а каханне — да дзяўчыны ці хлопца. Недарэчна будуць гучаць выразы «каханне да маці», а таксама «каханне да Радзімы» або «каханне да кнігі».

# З ТАБОЮ

З табою спаткаліся ў лесе;
Багун і чарнобель к нам слаўся.
Смяяўся пушчар, а ў смесе
За ценем цень новы снаваўся.

За намі, прад намі снавалі
Павучныя, бледныя цені, —
Мяне ў палац зазывалі,
Цябе — у святыя прадсені.

Святая пасцель небасхіла
Крывавай імглой заплывала,
Пасад заручальны магілай
Пуціна сляпая хавала.

Пуціна была, мы і тую
Згубілі, як лепей — ня зналі:
Ці маем шукаці старую,
Ці к новай блукаціся далей?



Малюнак на аснове выцінанкі «Каханне», **Ніна Сакалова-Кубай**
Верш «З табою», **Янка Купала**

# АЗБУКА БЕЛАРУСКАГА АРНАМЕНТУ

SYMBAL BY


АГОНЬ


БАГАЦЦЕ


ВЯСНА


ДУША


ЖЫЦЦЁ


ЗЯМЛЯ


КРАСА


МАЛАДОСЦЬ


НАСЕННЕ


ПРОДКІ


РОСКВІТ


СОНЦА


СЯМ'Я


УРАДЖАЙ


ЧЫСЦІНЯ


ЭНЕРГІЯ

**АРНАМЕНТ** — гэта найбольш вядомы від мастацкай творчасці нашага народу. Ткацтва, пашыў адзення, ганчарная справа, вышыўка — усё гэта не абыходзіцца без выкарыстання беларускага арнаменту, ідэнтычнага якому ў свеце няма.

Кожнаму, хто хоча хаця б крыху разбірацца ва ўзорах, трэба зразумець: кожны элемент арнаменту — гэта свайго роду тайнапіс, шыфроўка. Беларускі ўзор не проста прыгожыя крыжыкі, квадрацікі і птушачкі, а канкрэтнае пасланне.

Усе ўзоры прызначаны для розных нагод. Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці, маці, роднай зямлі, святаў, песень, язычніцкай міфалогіі, кахання, чалавека, сям'і і дзяржавы, веры і праўды — амаль ўсяго, што было звязана з мінулым беларусаў ды атачае іх зараз у штодзённым жыцці.

# АРНАМЕНТ

Старадаўні арнамент бацькоў.
Завіток ланцужку ДНК.
Ён ляціць праз прастору гадоў —
Не заціхне ў паветры імя!

Калі згасне ліхтар за вакном,
І ня ўзыдзе больш сонца ўгары,
Ахіні нас, арнамент, цяплом,
Цмяны смутак душы забяры.

Старадаўні арнамент бацькоў.
Наша папараць-кветка жыцця.
Між жалезабятонных лясоў
Беспрасветных будынкаў жылля.

Дзе жыве, у каго і калі
Сымбаль вечны і светлы, як край?
Беларускасці зерне ў зямлі
Захавай для сябе, захавай...



Дызайн: **Зміцер Афанасенка, Мікіта Броўка для symbal.by**
Крыніца ўзораў: **ornaments.shuma.by**
Верш «Арнамент», **Фёдар Бянько**

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЕ ВЫДАННЕ

# «МАЯ РАДЗІМА БЕЛАРУСЬ»

ВЫДАЦЬ ГЭТУЮ КНІГУ ДАПАМАГЛІ:
ДЗЯНІС КОТАЎ, PAVEL RZEWUSKI, ЮЛІЯ КОНІК, АНАТОЛЬ ЛЫСЮК, ПАВЕЛ СУХАНАЎ, ALEX MIJOITS, ХРЫСЦІНА КОРШУНАВА, АЛЕГ АЛІТОЙЦЬ, АНДРЭЙ КІМ, АЛЕГ ХВЕДЗЬКОВІЧ, ВЯЧАСЛАЎ РАДЗІВОНАЎ, НАДЗЕЯ ЛЕЙЧЫНСКАЯ, АНДРЭЙ ЮРКЕВІЧ, ДАР'Я ГУДКОВА, ПАВЕЛ ТЫСЛЯЦКІ, ІВАН ОСІПАЎ І ЯШЧЭ КАЛЯ 100 ЧАЛАВЕК.
ДЗЯКУЙ!



АДРАС: МІНСК, ПР-Т НЕЗАЛЕЖНАСЦІ, Д. 58, ОФ. 430 (МАСКОЎСКА-ВЕНСКІ ГЦ).
КАНТАКТЫ ПА ПЫТАННЯХ СУПРАЦЫ І АПТОВЫХ ПРОДАЖАЎ:
+375 29 782-88-81, +375 29 177-35-18, ARTSIADZIBA@GMAIL.COM, SYMBALBY@GMAIL.COM.

НАДРУКАВАНА Ў ДРУКАРНІ ТДА «ДЗІВІМАКС».
ПАСВЕДЧАННЕ АБ ДРВДВ № 2/44 АД 18.02.2014.
МІНСК, ПР. НЕЗАЛЕЖНАСЦІ , 58. КОРП. 17.
ЗАМОВА № 8354. ТЫРАЖ: 500 АСОБНІКАЎ.






SYMBAL  BY




ПРАДСТАЎЛЯЮЦЬ

Вы трымаеце ў руках унікальную кнігу — вынік калектыўнай працы беларускіх мастакоў, дызайнераў, паэтаў і выдаўцоў.
**МРБ** — гэта Беларусь з яе традыцыямі, сімваламі, святамі, мовай, прыродай, спадчынай, адметнасцямі пад адной вокладкай.
**МРБ** — гэта душа нашай краіны, якую мы адмыслова пакінулі чорна-белай, каб кожны ўладальнік гэтай кнігі зрабіў яе каляровай, якой бачыць і адчувае сам.

Вазьміце каляровыя асадкі, алоўкі ці фламастары
і паглыбляйцеся ў таямнічы ды творчы свет **Маёй Радзімы Беларусі!**
Кожны малюнак стане ўнікальным творам мастацтва з беларускім каларытам.
Каляровую працу вы зможаце змясціць у рамку ды разнастаіць ёю інтэр'ер вашага дому.
А калі не будзе шкада растацца, то вашыя малюнкі стануць цудоўнымі падарункамі для родных і сяброў.



Дзяліцеся працэсам і вынікамі вашай творчасці ды глядзіце, як атрымліваецца ў іншых, па хэштэгу **#МРБ** у сацыяльных сетках!